БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

14 ліпеня 1994 г.
Чацвер
№ 76 (13793)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

Малюе Віктар ДУБОВІК




## Кур'ер "ЧЗ"

### На палітычным Алімпе – горача

*Выбары першага беларускага прэзідэнта адбыліся, палітычная сітуацыя ў рэспубліцы атрымала новую адметную дынаміку. Пакуль Аляксандр Лукашэнка праводзіць інтэнсіўныя кансультацыі на розных узроўнях, палітыкі, у тым ліку і былыя канкурэнты самога Аляксандра Рыгоравіча па выбарчым марафоне, вызначаюць свае пазіцыі.*

Адносіны да Лукашэнкі-прэзідэнта і яго праграмы дзеянняў не адназначныя. Так, сакратар партыі камуністаў Васіль Новікаў дастаткова асцярожны ў выказваннях, хаця і не адмаўляе: праграма Лукашэнкі мала чым адрозніваецца ад асноўных прыярытэтаў ПКБ, з якімі партыя звязвала надзеі на поспех у выбарах. Аграрнікі і ўвогуле плыні "левай" і сацыяльнай арыентацыі вітаюць перамогу Аляксандра Лукашэнкі. Адным з важных станоўчых набыткаў для ўсяго грамадства справядліва лічыцца тое, што прыход да ўлады першага прэзідэнта аўтаматычна зазначыць інтэнсіфікацыю курсу на саюз з Расіяй, Украінай, іншымі краінамі СНД. Гэтае меркаванне грунтуецца на канкрэтных рэчах, Лукашэнка не проста дэкларава ў інтэграцыйныя прыярытэты сваёй палітыкі, а і без сумненняў у бліжэйшы час зробіць рашучыя крокі да іх рэалізацыі.

Больш скептычнымі выглядаюць ацэнкі і заявы лідэраў АДПБ Аляксандра Дабравольскага, БСДГ — Алега Трусава, парламенцкай апазіцыі. Паводле іх, перамога Аляксандра Лукашэнкі стала следствам непрыняцця шырокімі слаямі народа палітыкі ўрада. Бадай, самы катэгарычны у сваіх ацэнках лідэр БНФ Зянон Пазьняк, які сцвярджае, што "наменклатура на Беларусі ўзмацніла свае пазіцыі". Канструктывізм па-ранейшаму характэрны прагматыкам, у прыватнасці, Партыі народнай згоды, яе кіраўніцтва — за правядзенне кансультацый паміж прэзідэнтам і ўсімі палітычнымі плынямі.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Тэлефонная размова Б.Ельцына і А.Лукашэнкі

*Учора па ініцыятыве беларускага боку адбылася тэлефонная размова паміж прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным і абраным на пасаду першага прэзідэнта Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам.*

Было пацверджана імкненне абедзвюх краін да інтэграцыі. У ходзе размовы дасягнута дамоўленасць аб сустрэчы на вышэйшым узроўні ў першай дэкадзе жніўня.

### Заява Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь

*Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь выступіў з заявай.*

У дакуменце падкрэсліваецца, што выбранне прэзідэнта Беларусі паспрыяе ўмацаванню дзяржаўнай улады. "Пераканаўчая перамога на выбарах, — гаворыцца ў заяве, — гэта народны давер прэзідэнту, які павінен быць апраўданы". У сваю чаргу, Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь будзе рашуча стаяць на варце Канстытуцыі, законаў і міжнародна-прававых актаў, ратыфікаваных Беларуссю.

**(Ул.інф.).**

### Нацыянальныя касцюмы ў падарунак

*Сапраўдным святам для выхаванцаў дзіцячага садка № 557, які знаходзіцца ў сталічным мікрараёне Малінаўка–6, стала мінулая нядзеля. У садку з'явіліся прыгожыя дзіцячыя і дарослыя нацыянальныя касцюмы.*

Гэты шыкоўны падарунак зрабіла сумеснае беларуска-в'етнамскае прадпрыемства "БМХА", кіруе якім Валерый Пракудзін.

— Мы вельмі ўдзячныя нашым мецэнатам, — гаворыць метадыст Валянціна Бубен, — бо ў наш цяперашні, складаны ва ўсіх адносінах час, вельмі цяжка знайсці падтрымку ад каго-небудзь. У садку выхоўваюцца дзеці з забруджаных раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей і клопат пра іх — наша першачарговая задача. Такі падарунак агульным коштам пяць мільёнаў рублёў, прыйшоўся па густу і супрацоўнікам, і выхавальнікам. Гэта акцыя дапаможа дзецям раскрыць цудоўныя старонкі беларускай нацыянальнай культуры, увядзе іх у свет цікавы, родны, а таксама дапаможа пазнаёміць дзяцей з гісторыяй Беларусі.

— Трэба мець вялікае жаданне, — сказала выхавальніца садка Эла Адзінцова, каб выхоўваць у дзяцей прыгажосць, вывучаць культуру і традыцыі нашага народа. Мы, выхавальнікі, добра ўсведамляем свае месца і ролю ў адраджэнні нацыянальнай свядомасці дзяцей, бацькоў. Выхаванні любові і павагі да роднай мовы і культуры.

**Віталь ДАЛІДОВІЧ.**

### Кадры ёсць, а кіно няма

*Мінская відэастудыя "Берома" даўно заявіла аб сабе як аб прапагандысце беларускіх музычных відэазапісаў і ўзораў нацыянальнага мастацкага кіно.*

Новым крокам развіцця творчага дыяпазону студыі стала дубліраванне заходніх мастацкіх фільмаў. Прычым "беромаўцы" не баяцца канкурэнцыі сваіх маскоўскіх калегаў, у якіх гэтая дзейнасць даўно пастаўлена на шырокую нагу. Справа ў тым, што і ў гэтым рэчышчы "Берома" праяўляе сябе стабільным прыхільнікам беларускага Адраджэння. Сярод апошніх работ студыі — беларускамоўная копія амерыканскага шпіёнскага баевіка "Прывід у сталёвай масцы", знятага рэжысёрам Джэкам Голдам.

"Гэтую працу, — гаворыць перакладчык Сяржук Кірыенка, — нельга назваць камерцыйным поспехам. І відэапракат, і тэлебачанне (як дзяржаўнае, так і незалежнае) адмовіліся працаваць з нашым фільмам. Дакладней, тых жа пракатчыкаў карціна зацікавіла, бо ў Маскве гэты фільм пакуль не дубліравалі, але яны папрасілі зрабіць яшчэ і рускамоўную копію".

Дзіўна жыве незалежная Беларусь, дзе нявыгадна быць беларусам. Няўжо і ўласны прэзідэнт нічога тут не зменіць?

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

### Мастацкі свет Пятра Мураўчука

*У Жлобіне ў Палацы культуры металургаў прайшла дабрачынная выстаўка карцін жлобінскага мастака Пятра Мураўчука. Сёння яго работы вядомы не толькі ў Беларусі, яны выстаўляліся на Украіне, у Германіі, Аўстрыі, іншых краінах і выклікалі станоўчыя водгукі ў аматараў мастацтва.*

Работы на выставе былі аб'яднаны ў некалькі тэматычных цыклаў: пра вайну, чарнобыльскую трагедыю, космас і філасофскія разважанні. Прадставіў мастак і карціны, якія праслаўляюць прыгажосць непаўторнай роднай прыроды, плённа працуе аўтар і ў партрэтным жанры.

Выстаўка некалькі тыдняў будзе доўжыцца і ў сельскай мясцовасці раёна. З ёю азнаёмяцца жыхары г.п. Стрэшын і в. Чырвоны Бераг. Усе атрыманыя грашовыя ахвяраванні наведвальнікаў выстаўкі яе аўтар плануе перадаць гарадской дзіцячай бальніцы.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

### Курсы валют на 13 ліпеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 26125 | 26900 | 17100 | 17630 |
| "Прыюр" | 26100 | 26500 | 17100 | 17370 |
| "Пошук" | 26100 | 26800 | 17000 | 17700 |

*Замужжа... Такая жадана–ўзнёслая і адначасова хвалююча–сумная падзея ў жыцці любой дзяўчыны. Рамантычныя спатканні, доўгачаканыя тэлефонныя званкі, бесклапотныя сяброўкі — усё нібыта застаецца ў тым іншым жыцці, якое было да ўрачыстага ўбору, заручальных пярсцёнкаў і вялікага вясельнага стала.*

*Якім будзеш ты, сямейнае жыццё? Што прыгатуеш у падарунак? "Свет мой, люстэрачка, скажы..." — словы з папулярнай у дзяцінстве казкі вяртаюцца ў дзень вяселля да кожнай нявесты. Бо менавіта ад люстэрка хочацца даведацца пра ўсё–ўсё, што чакае наперадзе. А можа проста застацца адзін на адзін з сабою і праліць неспадзяваную слязінку радасці. І пераканацца ў чарговы раз: жыццё — самае цудоўнае, што дадзена чалавеку.*

**Майя ШЭНДРЫК,**
**фота Сяргея БРУШКО.**

## "Народ зрабіў выбар"

### Заява Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

10 ліпеня 1994 года народ зрабіў выбар, даверыўшы свой лёс на выбарах першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку. Для мяне асабіста гэта не толькі выражэнне народнага даверу, але і найвялікшая адказнасць перад грамадзянамі Беларусі. Дзякую выбаршчыкам і спадзяюся, што сваёй працай мне ўдасца апраўдаць іх выбар.

Разумею, што выбары прэзідэнта ў краіне — заснавальніцы ААН і наследніцы ядзернага статуса Савецкага Саюза не могуць пакінуць раўнадушнымі сусветнае супольніцтва. Вось чаму лічу неабходным спыніцца на наступным.

У знешняй палітыцы дзейнасць прэзідэнта будзе абумоўлена перш за ўсё нашымі эканамічнымі інтарэсамі, якія заключаюцца ў аднаўленні эканамічных сувязей з Расіяй і іншымі краінамі СНД, прыцягненні замежных інвестыцый, ператварэнні Беларусі ў паўнапраўнага суб'екта сусветнай эканамічнай сістэмы.

Беларусь упершыню ў свеце адмовілася ад магчымасці рэальнага валодання ядзернай зброяй. Пацвярджаю імкненне маёй краіны выканаць узятыя ёю абавязацельствы ў адпаведнасці з раней заключанымі дагаворамі.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь будзе стаяць на варце Канстытуцыі і законаў рэспублікі, выступаць гарантам яе дзяржаўнасці і бяспекі.

З выбраннем прэзідэнта не знікаюць усе тыя праблемы, што накапіліся ў краіне за апошні час. Нам дасталася цяжкая спадчына. Вось чаму сваю галоўную задачу бачу ў рэалізацыі той праграмы, за якую 10 ліпеня прагаласаваў народ. Неабходна будзе тэрмінова пачаць работу па стабілізацыі фінансавай сістэмы, прадоўжыць перагаворы з Расіяй па падрыхтоўцы паўнацэннага дагавора аб эканамічным саюзе, магчыма, з улікам палітычных перамен, якія адбыліся на Украіне.

На бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета пасля майго ўступлення на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на разгляд парламента будуць прадстаўлены кандыдатуры на пасаду прэм'ер-міністра і іншых членаў урада, якія патрабуюць па Канстытуцыі ўзгаднення з Вярхоўным Саветам. Працэс рэфармавання ўрада не можа быць ажыццёўлены ў адзін момант. Таму да афіцыйнага назначэння новых людзей на тую ці іншую пасаду ўсе службовыя асобы працягваюць выконваць свае абавязкі і несці за іх персанальную адказнасць перад беларускім народам. Усе заявы аб адстаўках без захавання адпаведнай працэдуры я расцэньваю як палітычныя дэкларацыі аб намерах некаторых асоб.

Трэба зразумець, што 11 ліпеня нічога надзвычайнага, здольнага выбіць нас усіх з каляіны не адбылося. Рэспубліка працягвае жыць нармальным жыццём, дзяржаўны апарат і кіраўнікі прадпрыемстваў таксама павінны нармальна выконваць свае функцыі, забяспечваючы належныя дысцыпліну і парадак.

Наперадзе — цяжкая і карпатлівая работа. Выконваць нам яе ўсім разам, а для гэтага ў Рэспубліцы Беларусь неабходна захаваць грамадзянскі мір і згоду. Цяжар пераадолення крызісу ляжа на кожнага з нас, і ноша прэзідэнта будзе самай нялёгкай. Абяцаю сумленна выканаць свой абавязак перад Беларуссю і яе народам.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**
**12 ліпеня 1994 года.**

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ПРЭЗІДЭНТ ПРАВЁЎ ПЕРШУЮ ПРЭС–КАНФЕРЭНЦЫЮ

На пачатку прэс-канферэнцыі Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка зачытаў заяву, у якой падкрэсліў, што новаму ўраду дастаецца цяжкая спадчына і галоўная адказнасць ляжа на плечы прэзідэнта. Нягледзячы на заўленыя адстаўкі, сказаў Аляксандр Лукашэнка, стары ўрад павінен выконваць свае службовыя абавязкі, пакуль не будзе сфарміраваны новы. Назваць прозвішча новага прэм'ер-міністра прэзідэнт адмовіўся, каб не апярэдзіць падзеі, зрэшты, паабяцаўшы, што прадставіць кандыдатуру на гэту пасаду на двухдзённай ліпеньскай сесіі Вярхоўнага Савета. Расійскія сродкі масавай інфармацыі паведамілі пазаўчора са спасылкай на кампетэнтныя крыніцы, блізкія да прэзідэнцкіх колаў, што, магчыма, новым беларускім прэм'ерам будзе намеснік Кебіча сп.Лінг альбо пасол Беларусі ў Расіі сп.Даніленка.

Увогуле, як заўважыў Аляксандр Лукашэнка, першымі дзеяннямі прэзідэнта будуць кадравыя перамены. "Сітуацыя ў рэспубліцы такая, – сказаў Аляксандр Рыгоравіч, – што я не магу дазволіць сабе звольніць увесь былы ўрад у поўным складзе". З урада Кебіча ў каманду Лукашэнкі пяройдуць былыя намеснікі прэм'ера Лінг, Мясніковіч, Кенік, а таксама міністр фінансаў Янчук, астатнім давядзецца шукаць новыя месцы працы. Зразумела, значна цяжэй, чым кадравыя, для прэзідэнта будуць эканамічныя пытанні. Нехта з журналістаў назваў іх заваламі. Каментатар расійскіх "Падрабязнасцей" Сванідзе быў яшчэ больш катэгарычным. "Прэзідэнт абраны ў жабрацкай Беларусі", – сказаў ён. Крыўдна, але факт. Аднак, паводле слоў Лукашэнкі, да нядзелі нават ён не ўяўляў сабе ўсяго цяжару эканамічных праблем, якія абрушыліся на яго і каманду. Як заявіў Лукашэнка, цяжкае становішча ў рэспубліцы з хлебам. Склады завалены мукой, але хлеба ў магазінах можа не быць – у бюджэце няма грошай. За чатыры месяцы ў рэспубліцы з'елі ўсё, што планавалася на год і пагэтаму цэны могуць страшна папаўзці ўверх. "Адчуваю, што без Расіі не пераадолеем крызіс", – сказаў Аляксандр Рыгоравіч.

Усходні вектар па-ранейшаму застаецца прыярытэтным у палітыцы Лукашэнкі і яго каманды. Арыентацыя на Расію нязменная. Але, паводле слоў прэзідэнта, адносіны павінны быць узаемавыгаднымі. У аўторак Аляксандр Лукашэнка меў размову з расійскім паслом на Беларусі і на прэс-канферэнцыі не скрываў таго, што прасіў дапамогі.

Безумоўна, стабілізацыя фінансавай сістэмы – адна з галоўных задач, якую давядзецца вырашаць новаму ўраду. Прэзідэнт мае намер працягваць перамовы з Расіяй, што і было падкрэслена ў заяве, каб дабіцца заключэння сапраўднага ўзаемавыгаднага дагавора. У той жа час Лукашэнка паўтарыў, што з'яўляецца прыхільнікам верасноўскага варыянта дагавора. "Я прыхільнік таго, каб да канца прайсці працэс перамоў з Расіяй. Атрымаецца – буду рад. Не – трэба шукаць альтэрнатыўныя шляхі. Але я думаю, што атрымаецца", – сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Кожнаму палітычнаму дзеячу наканавана свая місія. Няма сумневу, што, нягледзячы на ўсе передвыбарчыя "антыкарупцыйныя" козыры Лукашэнкі, яго "крыж" – гэта ўсё ж такі разграбці тыя самыя эканамічныя завалы, якія нагрувасціліся на некалі спакойнай дзяржаўнай беларускай эканоміцы за гады нявызначанай ці то рынагчнай, ці то антырынагчнай палітыкі. Эканамічная палітыка Аляксандра Лукашэнкі даволі слаба была прадстаўлена ў выбарчай праграме (націск рабіўся на перамены, але не ўказваліся іхнія механізмы), таму нядзіўна, што журналістаў хвалявалі менавіта гэтыя пытанні. Адносіны да прыватызацыі, да дзяржаўнага рэгулявання эканомікай, да класа прадпрымальнікаў. "Дзяржаўнае рэгуляванне эканомікай будзе, – сказаў Аляксандр Лукашэнка. – Гэта абумоўлена вялікай удзельнай вагой дзяржаўнай уласнасці ў рэспубліцы". Абвальная прыватызацыя будзе спынена, як адзначыў прэзідэнт, а так званы бізнес-клас павінен праводзіць палітыку ў інтарэсах простага чалавека. Наўрад ці прадпрымальнікі здольныя будуць зразумець, што гэта такое, але калі прэзідэнту гэта ўдасца, слава пойдзе далёка за межы Беларусі.

"Рэформы не маглі ісці таму, што ўрад не карыстаўся даверам народа", – сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Ну што ж, крэдыт даверу выдадзены. Паглядзім, як ім распарадзіцца каманда маладых прагматыкаў на чале з прэзідэнтам.

**Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"**

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## "Еўраньюс"

### ЕС АБМЯРКОЎВАЕ

*Адбылося пасяджэнне камісіі Еўрапейскага Саюза, на якім абмеркаваны пытанні, якія тычацца ўсходнееўрапейскіх краін.*

Многім з іх патрэбна цяпер эканамічная падтрымка. На пасяджэнні прыняты праграмы партнёрства. Эксперты адзначаюць, аднак, што па-за ўвагай засталося кола пытанняў, звязаных з сельскай гаспадаркай.

### БАСНІЙСКІЯ СУСТРЭЧЫ

*Міністры замежных спраў Вялікабрытаніі і Францыі прыбылі ў Боснію на сустрэчу з лідэрамі розных партый.*

Міністры жадаюць пераканаць мясцовых палітыкаў у неабходнасці прыняцця міжнароднага мірнага плана, які быў выпрацаваны ў Жэневе. Французскі міністр Жюпэ заявіў, што ў выпадку непрыняцця плана ўрэгулявання ААН будзе вымушана ўвесці ў Боснію свае войскі. Але ёсць спадзяванні: да гэтага не дойдзе.

### БРАЗІЛЬСКАЯ КАВА: КАТАСТРОФА НА ПЛАНТАЦЫЯХ

*Другое за апошнія паўмесяца моцнае пахаладанне зафіксавана ў Бразіліі — краіне, якая з'яўляецца буйнейшым у свеце экспарцёрам кавы.*

Плантацыі кавы зноў апынуліся пад уздзеяннем моцных халадоў. Эксперты расцэньваюць такое становішча як катастрофу. Тэмпература ўпала да 3°C. У шэрагу раёнаў загінула 80 працэнтаў ураджаю кавы.

## "Суперчэннэл"

### ВЫБУХІ НА РОДАСЕ

*На грэчаскі востраў Родас скінуты дзве бомбы.*

Адна выбухнула ў цэнтры горада перад гасцініцай, другая — на пляжы ля танцпляцоўкі. Было паранена 5 чалавек, сярод іх тры турысты са Швецыі і Даніі, а таксама 2 грэкі.

### ПАРТРЭТНАЯ МАПЯ ПРЫЦЯГВАЕ ЗЛАДЗЕЯЎ

*"Партрэт Жана Даро" выкрадзены з музея Луўра.*

Аўтар карціны — славуты французскі гравёр і мастак Рабер Нантэйль. Кошт партрэта ацэньваецца ад 75 да 100 тысяч доляраў.

### КАРЭЙСКІ "ЧОРНЫ ШЛЕЙФ"

*Коэн Марыта, 28–гадовы эксперт Міністэрства замежных спраў Японіі, якому прадракалі бліскучую кар'еру, скончыў самагубствам.*

Ён выкінуўся з 5-га паверха адной з урадавых устаноў у Токіо. Трагедыі папярэднічала выкананне адказнага даручэння па аналізу сітуацыі на Карэйскім паўвостраве ў сувязі са смерцю Кім Ір Сена.

### ЗАГАДКАВЫЯ ДЫНАЗАЎРЫ

*Да якіх жывёлін адносіліся дыназаўры — халаднакроўных ці цеплакроўных?*

Аналіз шкілета тыраназаўра "падказаў" вучоным, што гіганцкі драпежнік быў больш блізкі да млекакормячых, чым да рэптылій.

## "Уорлднэт"

Палеантолаг Рыз Бэрык гаворыць: "У тыраназаўра тэмпература цела была пастаяннай і не мянялася ні днём, ні ноччу". Адна з тэорый сведчыць, што дыназаўры прайшлі шлях ад халаднакроўных да цеплакроўных жывёлін.

### КЛІНТАН ЛЯ БРАНДЭНБУРГСКІХ ВАРОТ

*Ля Брандэнбургскіх варот у Берліне сабралася 40.000 мясцовых жыхароў, каб вітаць прэзідэнта ЗША Біла Клінтана.*

Клінтан заявіў аб нямецка-амерыканскай салідарнасці. Ён сказаў: "Амерыка стаіць на баку нямецкага народа цяпер і заўжды". Амерыканскі прэзідэнт спыніўся на пытаннях барацьбы з расізмам і рэлігійным фанатызмам.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Людміла КАХАВЕЦ, Віктар КАПАЧЭЛЬ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.



Бізнес-клас

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-52

## Пластыкавыя грошы

Сёння банкі Беларусі прадастаўляюць сваім кліентам такі від паслуг, як аплата крэдытных картак. Аднак большасць насельніцтва, хоць і бачыла на тэлеэкранах рэкламу сусветна вядомай фірмы "VISA", не ўспрымае іх сур'ёзна. Тым не менш, так званыя пластыкавыя грошы — вельмі зручны, эканомны спосаб аплаты тавараў і паслуг. Прычым, у любым пункце свету. Зараз існуе шэраг пластыкавых картак. Найбольш распаўсюджаныя:

крэдытныя карткі выкарыстоўваюць для аплаты розных паслуг і тавараў за кошт крэдыту, які прадастаўляе кліенту банк або спецыялізаваная сервісная кампанія;

карткі з лімітаваным тэрмінам крэдыту. У адрозненне ад вышэй названых атрыманне крэдыту па картках абмежавана адным месяцам. Гэта значыць, што на момант куплі па картцы кліент можа і не мець на сваім рахунку неабходнай сумы грошай. Аднак на працягу 30 дзён ён павінен пагасіць запазычанасць;

карткі для аплаты пэўнага тавару і паслуг. Інакш кажучы, мэтавыя крэдытныя карткі. Яны выкарыстоўваюцца для аплаты пэўных паслуг або для разлікаў у пэўных крамах за кошт крэдыту, які прадастаўляецца кампаніяй ці фірмай, што. аказваюць менавіта даны від паслуг;

карткі — гарантыя чэкавых плацяжоў, або гарантыйныя карткі. Яны выкарыстоўваюцца каб ідэнтыфікаваць кліента, які выпісвае чэк, і для гарантыі, што на ягоным рахунку ёсць грошы. Такім чынам гандлёвыя кропкі абараняюць сябе ад атрымання неабгрунтаваных чэкаў або чэкаў з падробленым подпісам ад нядобрасумленных кліентаў;

дэбетавыя карткі — карткі наяўных грошай. Гэты від пластыкавых грошай выкарыстоўваюць для аплаты тавараў і паслуг, а таксама для атрымання наяўных грошай у банкаўскіх аўтаматах шляхам непасрэднага спісання грошай з рахунку плацельшчыка.

## Аўкцыённыя рэкорды

Надзвычай выніковым аказаўся трэці аўкцыён па продажу аб'ектаў гарадской камунальнай маёмасці, які нядаўна адбыўся ў Гродна.

9 лотаў, сярод якіх пяць магазінаў, пабудовы і праектна-каштарысная дакументацыя з правам забудовы зямельнага ўчастка і права на арэнду памяшкання былі прададзены за 10 млрд. 126 млн. рублёў. Толькі тры магазіны прынеслі гарадской казне 7,9 млрд. руб, што перабольшвае агульную суму ад продажу аб'ектаў на папярэднім аўкцыёне.

Чарговы аўкцыён у Гродна пройдзе 30 ліпеня. Яго арганізатарамі па-ранейшаму выступаюць аддзел па кіраванню камунальнай маёмасцю і прыватызацы Гродзенскага гарвыканкама і Міжнародная фінансавая карпарацыя.

**Святлана КУЛІКОВА.**

## Банк у дапамозе не адмаўляе

Магчымасці фінансавання беларускіх праектаў Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця абмяркавалі 12 ліпеня яго прадстаўнікі з намеснікам міністра знешніх эканамічных сувязей рэспублікі Уладзімірам Ярмолікам і некаторымі спецыялістамі нашых камерцыйных банкаў.

У час гутаркі госці адзначылі, што яны гатовы аказваць дапамогу дробным і сярэднім прадпрыемствам для наладжвання вытворчасці запасных частак да аўтобусаў, у вырашэнні іншых праблем. Пад гарантыі ўрада гэта фінансавая ўстанова можа адкрыць для Беларусі крэдытную лінію на 30 мільёнаў даляраў.

**БЕЛІНФАРМ.**

ЭКАНОМІКА

# Усе шляхі вядуць у Гановер

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

*Днямі прадстаўніцтва "Deutsche Messe AG" у Мінску і ўдзельнікі Гановерскай прамысловай выставы правялі прэс–канферэнцыю, прысвечаную вынікам удзелу ў ёй беларускіх прадпрыемстваў.*

Штогод у Гановеры (ФРГ) праходзіць міжнародны прамысловы кірмаш, на якім дэманструюцца лепшыя сусветныя дасягненні ў розных галінах вытворчасці. Трэба зазначыць, Гановерскі кірмаш (Hannover Messe) лічыцца самым прадстаўнічым. Кожны раз шэсць тысяч фірм з пяцідзесяці краін свету прадстаўляюць свае дасягненні на плошчах у адзін мільён квадратных метраў, у Гановер прыязджае да паўмільёна дзелавых людзей.

Сёлета яны сабраліся на Гановерскі кірмаш з вялікімі надзеямі: не толькі меркавалася, што выстава будзе іграць сваю шматгадовую ролю барометра эканомікі і прамысловасці, але і чакалася, што яна стане своеасаблівым эканамічным лакаматывам, які дапаможа надаць "апошняе паскарэнне" эканоміцы на выхадзе з крызісу.

Кааперацыя "Захад-Усход" стала добра арганізаваным месцам сустрэчы для ўсіх краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Сёлета ў Гановер прыехалі таксама беларускія прадпрыемствы і арганізацыі. Сярод іх, у прыватнасці, АП "Сельгасагрэгат" (Бабруйск), АА "Мінскі гадзіннікавы завод", ВА "Кузлітмаш" (Пінск), вытворча-камерцыйная фірма "ТФК" (Мінск), акцыянерна-камерцыйны банк "Беларусь" (Мінск), фірма "Мінскэкспо". Удзельнікам форуму "Кааперацыя паміж Усходам і Захадам" (у лік якіх увайшлі і беларускія прадстаўнікі) была прадастаўлена бясплатная выставачная плошча, забяспечана інфармацыйнае абслугоўванне (каталогі, камп'ютэрны банк даных, тэлефон), пастаянна чыталіся даклады па стану эканомікі і перспектывах супрацоўніцтва з краінамі Усходняй Еўропы.

Прадстаўнікі беларускіх прадпрыемстваў і арганізацый правялі на кірмашы шэраг канструктыўных перагавораў. Так, галоўны інжынер АП "Сельгасагрэгат" В.Каўшырка сустрэўся з прадстаўнікамі фірм "Trayler san.tic" (пастаўкі пнеўматармазных сістэм у Турцыю), "Rydares", Швецыя; "STS", ФРГ (закупка безасбеставых накладак), "Faller Technicks", Аўстрыя (вытворчасць абсталявання для перапрацоўкі бульбы на крухмал і кукурузы на пратэін), фірмай "Hyundai" (Паўднёвая Карэя) і інш.

Галоўны інжынер ВА "Кузлітмаш" С.Шыш правёў перамовы з фірмамі "Transporta" (пастаўка дэталей нацяжных прыстасаванняў), "Volkswagen", ФРГ (набыццё абсталявання), "As Kom", Польшча (абмен па бартэру), "Nordson", ФРГ (набыццё абсталявання па апрацоўцы паверхні), "Faller Maschinenbau", Аўстрыя (атрыманне ноў-хаў па вытворчасці сельскагаспадарчай тэхнікі).

Вельмі паспяховым стаў удзел у кірмашы Мінскага навукова-інжынернага цэнтра "Белтэхналогія". Усе яго распрацоўкі абаронены патэнтамі, а прапануюе цэнтр станы клінавай пракаткі, індукцыйныя награвальнікі, вырабы ў выглядзе валоў і восей. У Гановер мінчане прывезлі новую для еўрапейцаў машыну — стан папярэчнаклінавай пракаткі, тэхналогію і канструкцыю якога распрацаваў НІЦ. Пры агульнапрынятым у машынабудаванні каэфіцыенце выкарыстання металу 0,4—0,6 (што значыць 40—60 працэнтаў — у стружку, ён забяспечвае 0,85—0,92. Стан — бясшумны, габарыты яго невялікія, дакладнасць апрацоўкі як у такарнага станка, а кошт больш танны, чым у аналагічных агрэтагаў. За дні кірмашу спецыялісты цэнтра правялі 64 сустрэчы з прадстаўнікамі фірм з ЗША, Паўднёвай Карэі, Тайланда, Туніса, ПАР, Ізраіля, Ірака, Японіі, Бразіліі і практычна ўсіх еўрапейскіх краін. У бліжэйшы час НІЦ плануе накіраваць камерцыйныя прапановы аб продажы свайго абсталявання 33 фірмам свету. Толькі ў Германіі некалькі буйных фірм прапанавалі "Белтэхналогіі" партнёрства ў выглядзе СП ці агенцтва па продажы папярэчна-клінавых станаў.

Намеснік начальніка АА "Мінскі гадзіннікавы завод" А.Лаўрэцкі сустрэўся з прадстаўнікамі фірм "Varta", ФРГ (набыццё батарэек для гадзіннікаў), "Krupp", ФРГ (набыццё сталі-серабранкі), "Degussa", ФРГ (набыццё залатой солі, якая прымяняецца ў гадзіннікавай прамысловасці).

Удзел у кірмашы прыняў і Мінскі падшыпнікавы завод. Сёлета — у другі раз. Сёння МПЗ — буйны вытворца падшыпнікаў розных тыпаў з гадавым выпускам прадукцыі каля 30 мільёнаў штук. Вырабы дыяметрам ад 10 да 600 міліметраў — гэта падшыпнікі шарыкавыя, радыяльныя і радыяльнаўпорныя аднарадавыя і шматрадавыя, ролікавыя радыяльныя сферычныя двухрадавыя і ролікавыя радыяльныя ігольчатыя, якія ўжываюцца ў многіх галінах народнай гаспадаркі. Высокі ўзровень аўтаматызацыі вытворчасці, шырокае прымяненне станкоў з ЛПК, робататэхнікі, паточных аўтаматычных ліній даюць магчымасць вырабляць падшыпнікі на ўзроўні міжнародных стандартаў і экспартаваць іх больш чым у 20 краін свету. За апошні час у сувязі з развіццём рынкачных адносін павысілася дынамічнасць заводскіх камерцыйных і інжынерна-канструктарскіх службаў. Так, на працягу 1993 і з пачатку 1994 гадоў завод асвоіў у серыйнай вытворчасці 40 новых падшыпнікаў, якія карыстаюцца павышаным попытам у спажыўцоў. Для больш поўнага задавальнення іх інтарэсаў на МПЗ уведзена ў дзеянне сістэма дробнааптовых паставак. У Гановеры спецыялісты завода правялі звыш 40 перагавораў з прадстаўнікамі замежных фірм, дасягнуты папярэднія дамоўленасці на пастаўку доследных партый падшыпнікаў у Германію, Англію, Балгарыю.

Арэнднае прадпрыемства "Гомельскі падшыпнікавы завод" таксама накіравала сваіх прадстаўнікоў у Гановер. Выпускаюць гамяльчане веласіпедныя падшыпнікі, а таксама падшыпнікі лінейнага перамяшчэння і радыяльнаўпорныя са штампаванымі кольцамі. Асноўная мэта візіту на кірмаш — пошук рынкаў збыту, рэклама сваёй фірмы і прадукцыі. Было шмат кантактаў. Канкрэтную зацікаўленасць да вырабаў гамяльчан праявілі 20 фірм. Некаторыя прапанавалі даляравыя кантракты. Як лічыць дырэктар ГПЗ В.Томан, Гановерскі кірмаш дае перспектыву для пашырэння рынкаў збыту і асартыменту прадукцыі, павышэння яе якасці.

АП "ВІЗАС" (таксама ўдзельнік "Гановер Мессе-94") спецыялізуецца на выпуску універсальна-заточных і спецыяльных станкоў для вырабу і заточкі любых відаў інструментаў, у тым ліку абсталявання з лічбавым праграмным кіраваннем, дрэваапрацоўчых станкоў, абсталявання для апрацоўкі і ўстаноўкі акулярavых лінз у аправы, тавараў народнага спажывання. У Гановеры была прадстаўлена новая мадэль універсальна-заточнага станка высокай дакладнасці, ён атрымаў добрую ацэнку спецыялістаў.

Вялікую актыўнасць на кірмашы праявіў прэзідэнт ВКФ "ТФК" С.Малчанаў, які правёў у агульнай складанасці каля 60 перагавораў. Намеснікі старшыні праўлення АКБ "Беларусь", В.Міхасёў і С.Чайкін, сустрэліся з прадстаўнікамі фірм "Still", "Dresdner Bank AG", "Deutsche Management Akademie Niedersachsen" (усе — ФРГ). Гутарка вялася аб інвестыцыях у беларускую прамысловасць, супрацоўніцтве ў галіне фінансавых аперацый, навучанні банкаўскіх спецыялістаў.

ЗВАНОК НА ЎРОК

# Вучылішча, дзе рыхтуюць паэтаў

□ Паўлюк ПРАНУЗА

Упершыню я наведаў Нясвіж у лістападзе 1945 года — менавіта тады атрымаў накіраванне ў мясцовае педвучылішча, каб выкладаць беларускую мову і літаратуру. Шукаючы патрэбны будынак, я вырашыў спытаць пра яго ў гараджан — і мне паказалі на старажытны кляштар бенедэкцінак. У ім і размясцілася педвучылішча.

Здзівілі мяне і вучні — многія з іх былі толькі на 4—5 гадоў маладзей за мяне і на свае вочы бачылі ўсе ваенныя жахі, дапамагаючы партызанам у якасці сувязных і разведчыкаў. З вялізным жаданнем узяліся яны за аваладванне настаўніцкай спецыяльнасцю, хаця ўмовы былі нялёгкімі: не хапала падручнікаў, сшыткаў, наглядных дапаможнікаў, аўдыторый, пакояў для жылля. У выхадныя дні многія пешшу ішлі дамоў да бацькоў, за 20—30 кіламетраў, каб прынесці чаго-небудзь з ежы...

— Тое, што мы маем сёння, не ідзе ні ў якое параўнанне з ранейшай матэрыяльна-тэхнічнай базай, — успамінае былы выпускнік Нясвіжскага педвучылішча, яго дырэктар Валянцін Захаравіч Бруй. — Прыведзена ў парадак старое памяшканне, заменены дах, абсталяваны клуб, вучэбны корпус. Маем свой стадыён і цяплічную гаспадарку, сталовую, круглае лета на тэрыторыі вучылішча цвітуць кветкі, што вырошчваюць самі студэнты.

Да ўсяго ў вучылішчы працуюць аж 22 гурткі. Адна іх колькасць ужо выклікае павагу. А чаго вартыя назвы: драматычны, "Квант", "Асновы педагагічнага майстэрства", "Пазнай свой арганізм", "Паэзіі радок чароўны", "Народныя святы і традыцыі"... Як бачыце, на любы густ.

З асаблівай павагай тут адносяцца да беларускай мовы. Традыцыйныя мерапрыемствы — усялякія віктарыны і алімпіяды — не заўсёды былі такімі традыцыйнымі, як зараз. Але выкладчыца беларускай мовы М.Ф.Енчык здолела перадаць сваё захапленне нацыянальнай культурай не толькі практычна ўсяму педагагічнаму калектыву, але і большасці сваіх студэнтаў. Зрэшты, гэтая настаўніца (між іншым, старшыня мясцовага таварыства беларускай мовы) — не адзінокая ў сваіх памкненнях. Вельмі дапамагае ёй выкладчыца працы М.І.Емяльянчык — кіраўнік фальклорнай суполкі "Чабор", шчыры прапагандыст беларускай культуры, чые "нацыянальныя" вечарыны ведаюць не толькі ў вучылішчы, але і ў суседніх вёсках Асмолава і Лявонавічы.

Мастацкая самадзейнасць тут наогул "на ўзроўні". Ёсць свой аркестр народных інструментаў, ёсць і уласны вакальна-інструментальны ансамбль — прызёр рэспубліканскага конкурсу.

Пра развіццё творчых здольнасцей у студэнтаў клапоціцца выкладчыца практычнага навучання, ветэран вайны Н.А.Саўчанка. Рукі ў яе — проста залатыя. Ніводнае свята, ніводны спектакль ці святочная вечарына не адбываецца без яе ўдзелу — дэкарацыі, касцюмы яна стварае заўсёды сама. Такі ў гэтай настаўніцы педагагічны дэвіз: рабіць усё сваімі рукамі. Дэвіз, што выбіраюць для сябе многія яе вучні.

Не так даўно ў вучылішчы адбылася вечарына "У вянок Максіму", прысвечаная творчасці Максіма Багдановіча, бацька якога, як вядома, вучыўся некалі ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Гучалі песні паэта, прыгадваліся моманты ягонай біяграфіі, дэкламаваліся вершы. Вельмі прыемна было чуць са сцэны радкі былога выпускніка педвучылішча паэта Яўгена Міклашэўскага:

"Зорка Венера"
лунае над светам,
Гэта —
каханню юнацкаму гімн,
Як не спяваць
яго разам з паэтам,
Разам з народам сваім.

Гасцямі педвучылішча ў той вечар былі пісьменнікі К.Крапіва, П.Броўка, А.Астрэйка, П.Панчанка, кампазітары Сакалоўскі, Лучанок...

Нямала выхаванцаў педвучылішча выйшла на ўласную творчую дарогу. Назаву некаторых з іх: паэты Іван Ралько і Яўген Міклашэўскі, доктар філасофскіх навук І.І.Антановіч, кандыдат гістарычных навук І.Д.Стадуб, былы завуч педвучылішча А.М.Бардовіч — зараз прафесар, загадчык кафедры рускай мовы Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта...

Калі праходзіш калідорамі педвучылішча, наведваеш кабінеты, гутарыш з навучэнцамі, пераконваешся, што гэта менавіта тая ўстанова, дзе выхоўваецца надзея нашай педагогікі.

СПАДЧЫНА

# "Гасподзь умудрае сляпцы!"







**Часам бываюць у жыцці дзівосныя супадзенні. Спачатку малапрыкметныя, яны з цягам часу набываюць асаблівае значэнне, надоўга запамінаюцца і падобраму, жыватворна ўплываюць на далейшае жыццё...**

Двойчы збіраліся мы ў дарогу да святара Стэфана Антонавіча Саўкі, які служыць недалёка ад Мінска, у Свята-Ільінскай царкве сяла Коўшава, і двойчы не атрымлівалася. Трэці раз быў удачным, выпаў ён на нядзелю, калі Праваслаўная Царква ладзіць успамін пра збавенне Госпадам ад нараджэння сляпога. Айцец Стэфан — таксама сляпы, з дзяцінства інвалід па зроку, з нядаўняга часу бачыць толькі на адно вока, і то на два працэнты.

У тую нядзелю ў царкве чыталася Евангелле ад Іаана, у якім гаварылася, як Хрыстос вылечыў слепанароджанага. Вучні падышлі да Хрыста і спыталіся ў яго: "Хто саграшыў, ён ці бацькі яго, што нарадзіўся сляпым?" А Ісус адказваў: "Не саграшыў ні ён, ні бацькі яго, але гэта для таго, каб на ім праявіліся справы Божыя". Айцец Стэфан з дапамогай Божай і добрых людзей за год аднавіў храм, гісторыя якога адыходзіць далёка ў мінулыя стагоддзі.

Храма гэтага вы не знойдзеце ні ў "Зборы помнікаў Мінскай вобласці", ні ў энцыклапедыі "Архітэктура Беларусі". Яго не занеслі ў каталогі помнікаў, не заўважылі, хоць ён знаходзіцца побач з Мінскам. Прычына таму — запусценне святыні, той жудасны стан, у якім існавала яна на працягу многіх дзесяцігоддзяў бязбожнага жыцця. Знешне немагчыма было здагадацца, што гэта храм. У апошнія гады ён служыў сховішчам для цэменту.

А некалі жыццё тут, як кажуць, "біла крыніцай". Але пра ўсё па парадку.

Спакон веку ў 2-х кіламетрах ад Коўшава,у суседнім Саламарэчча, знаходзіўся мужчынскі Свята-Пакроўскі манастыр. Тут захоўвалася цудатворная ікона Багародзіцы, якую вельмі шанавала мясцовае насельніцтва. Бывала, сотні багамольцаў збіраліся на свята Пакрова на пакланенне святому абразу...

Саламарэчанскі манастыр быў заснаваны ў 1558 годзе княжною Ганнай Іванаўнай Глябовіч родам з Заслаўя і князем Іванам Васільевічам з Саламарэчча. Яны ў 1576 годзе ахвяравалі манастыру дзве вёскі: Бараўляны і Бондачы.

Коўшава заўсёды ўваходзіла ў прыход манастыра. Здаўна ў ім існавала невялікая царква Св.Іллі, як арыенцір яна сустракала і праводзіла багамольцаў.

Спачатку царква была драўлянай. Першы ўспамін пра яе адносіцца да 1645 года. Менавіта тады мясцовая ўладальніца Марына Служынская падарыла коўшаўскай царкве зямельны надзел. Пазней замест драўлянай на сродкі памешчыка Чарнецкага ўзвялі ў 1816 годзе мураваны храм. Ён захаваўся да нашых дзён. У 1910 годзе намаганнем протаіерэя Міхаіла Самойлавіча, які служыў у Саламарэччы, храм капітальна адрамантавалі на суму 5745 рублёў 94 капейкі.

Пасля абнаўлення храм у Коўшава набыў прывабны выгляд, а айцец Міхаіл Самойлавіч за добрасумленныя адносіны да службы і царквы быў узнагароджаны нагрудным крыжам.

Але набліжаліся іншыя часы...

У 1918 годзе а.Міхаіл памёр. На прыход у Саламарэчча быў прызначаны іншы свяшчэннік — айцец Аляксандр Шалепін. Яму давялося дапамагаць мясцовым прыхаджанам у цяжкія гады ганенняў за веру. 14 мая 1929 года па лжываму даносу ён быў арыштаваны АДПУ і змешчаны на тры гады ў канцлагер. Далейшы лёс а.Аляксандра нам не вядомы. Храмы ж у Саламарэччы і Коўшаве ўлады закрылі. Настаў час запусцення не толькі ў храмах, але і ў людскіх душах...

Мінула больш як пяцьдзесят гадоў. Адгрымела вайна. У мірны час была разбурана Св.Пакроўская царква ў Саламарэччы. Цудам застаўся цэлы храм у Коўшаве.

Магчыма, храм па-ранейшаму заставаўся б сховішчам цэменту, калі б у 1993 годзе ў Коўшаве не з'явіўся айцец Стэфан Саўка — дзівосны чалавек складанага, цяжкага лёсу, як і той час, у які давялося яму жыць. Родам з сяла Старыя Пяскі Брэсцкай вобласці. З дзяцінства ў яго быў дрэнны зрок. Напасці не пакідалі яго ўсё жыццё. Адразу пасля вайны ад голаду памерла маці, а хутка і бацька, які вярнуўся з палону. Засталіся Сцяпан і яго сястра адны. Сястру забралі ў дзіцячы дом, а хлопчык пайшоў па белым свеце шчасця шукаць. Бачыў ён яшчэ не зусім дрэнна. Працаваў доўгі час на самых розных, у асноўным цяжкіх работах: камбайнерам, трактарыстам, даглядчыкам жывёлы на ферме, бондарам, тынкоўшчыкам. І праз усё жыццё пранёс, захаваў веру ў Бога, завешчаную яму маці, — жанчынай вельмі набожнай і працавітай. У аднаўленні храма ў Коўшава айцу Стэфану вялікую дапамогу аказаў мясцовы калгас на чале са старшынёй Мікалаем Лапоцем і фірма "Белінтэртранс", якую ўзначальвае Вячаслаў Доўнар.

Па сутнасці, у 1993—1994 гадах а.Стэфан Саўка выканаў у коўшаўскай царкве такі ж капітальны рамонт, як і яго папярэднік, — а.Міхаіл Самойлавіч, у 1910 годзе.

Дзякуй Богу, храм зноў набыў належны яму выгляд. Паглядзіце на фота: які цуд перад вамі, якая прыгажосць! Тут і слоў не трэба. Сапраўды, Гасподзь умудрае сляпцы!

**Фёдар КРЫВАНОС, гісторык Мінскай Епархіі.**
**Фота Сяргея БРУШКО.**

## ЛЯСЫ ХВАРЭЮЦЬ. ЯК І ЛЮДЗІ

*Паводле даных ААН, у Еўропе вырасла колькасць сур'ёзна пашкоджаных дрэваў.*

Сумнае лідэрства трымаюць тут Вялікабрытанія (58 працэнтаў хворых дрэваў у адносінах да агульнай плошчы лясных масіваў), Чэхія (56) і Польшча (49). Што тычыцца нашай рэспублікі, дык яе лясы пацярпелі, згодна са звесткамі ААН, на 19 працэнтаў. Асноўную пагрозу лясам кантынента складаюць хімічныя рэчывы, якія выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы, выкіды прамысловых прадпрыемстваў, выхлапныя газы. У Беларусі да ўсяго пералічанага далучыліся наступствы аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**Алена АГІБАЛАВА.**

## ЗАБІТА "МІС ЗАЧАРАВАННЕ"

*Жорсткае злачынства адбылося на пачатку ліпеня ў Гродна.*

Раніцай 2-га ліпеня ў сваёй кватэры па вуліцы Церашковай былі знойдзены трупы дваіх маладых людзей: 25-гадовага гаспадара Андрэя Куца і яго нявесты Гражыны Ігнатовіч, выхавальніцы дзіцячага садка.

Гражына Ігнатовіч, вядомая гродзенцам як "Міс Зачараванне-88" была забіта стрэлам у шыю, Андрэй Куц — у сэрца. Зараз вядзецца следства.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

## ПАСТАВАМ ПАЛЕЦ У РОТ НЕ КЛАДЗІ

*Не верце, калі пачуеце, нібы Паставы — звычайны раённы цэнтр. Тут каля паўтары тысячы чалавек валодаюць прыёмамі каратэ і даюць фору на спаборніцтвах і ў Віцебску, і ў Мінску.*

Вучыцца каратэ можна з сямігадовага ўзросту, паступіўшы ў клуб "Азімут". А прыйшоў у Паставы гэты даволі экзатычны спорт з... ваеннай часці, пры якой яшчэ ў васьмідзесятым годзе была арганізавана секцыя каратэ. Ваенныя выехалі ў Расію, а каратэ засталося.

## ФІЗВЫХАВАННЕ КАМЕРЦЫЯЛІЗУЕЦЦА

*Акадэмія фізічнага выхавання і спорту пачала набор абітурыентаў для паступлення на новую кафедру. Упершыню для нашай рэспублікі гэта навучальная ўстанова пачне рыхтаваць спецыялістаў па міжнароднаму турызму і маркетынгу.*

Кур'ер "ЧЗ"

Асаблівае значэнне на кафедры ўдзяляецца замежным мовам. Студэнты будуць глыбока вывучаць дзве замежныя мовы, адной з іх яны павінны авалодаць у дасканаласці. Для выкладання навучальных дысцыплін запрошаны і прафесіяналы з-за мяжы. Дарэчы, у падрыхтоўцы новых спецыялістаў кафедры міжнароднага турызму і маркетынгу будзе аказваць дапамогу і нямецкая фірма "Auperle". Так, плануемыя стажыроўкі студэнтаў за мяжой фірма абавязалася наладжваць за свой кошт.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

## ГРАМАДЗЯНІН АМЕРЫКІ І... НАВАГРУДКА

*Барыс Кіт, сусветна вядомы ў галіне астранаўтыкі амерыканскі вучоны, стаў першым ганаровым грамадзянінам Навагрудка.*

Ураджэнец Прынёманскага краю, ён у свой час вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, а пазней быў яе дырэктарам. Жывучы на іншым канцы свету, Барыс Кіт не забыўся пра сваю Радзіму, захаваў беларускасць, многае зрабіў для беларускай дыяспары за мяжой.

Памятае знакаміты вучоны і пра родны горад. Нядаўна ён перадаў у дар Навагрудскаму краязнаўчаму музею свой асабісты архіў. Па ініцыятыве славутага земляка ў горадзе плануецца адкрыць філіял Беларускага універсітэта культуры.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

## ХТО ШУКАЕ, ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ

*У Бешанковіцкім раённым краязнаўчым музеі ўвесь час шукаюць новыя формы работы, якія б задаволілі яго наведвальнікаў. Так нядаўна тут адкрылася выстава народнай творчасці. І апынуліся ў музеі на куце абрусы, вязаныя кручком, пакрывалы, сурвэткі, ручнікі. Ёсць тут і ганчарныя вырабы.*

Дапамагае музею мясцовы Дом піянераў. Кіраўнік аднаго з гурткоў Лідзія Пятроўна Аўчыннікава саткала для выставы дыван з выявaю Свята-Ільінскай царквы.

## БЫЛО Б ШТО КУПІЦЬ...

*У Талачыне магазіны проста на вачах мяняюць сваё аблічча. Пасля рэканструкцыі стаў больш прасторным і ўтульным галантарэйны магазін. Былая дзіцячая кухня ператварылася ў краму па продажу тавараў для малазабяспечаных. Рэканструкцыя гандлёвай залы ідзе ў харчовым магазіне, што па вуліцы Энгельса.*

Вось бы дабрацца да "рэканструкцыі" цэн, каб не было, як у адной з расійскіх вёсак. Прадавец пераблытаў цэннікі. Прыйшлі бабулькі, убачылі "новыя" цэны на хлеб і — давялося выклікаць "хуткую".

**Уладзімір МІХНО.**

## АПЛАДЫСМЕНТЫ

### АДНОВІМ ФЕСТЫВАЛІ?

*Рэспубліканскае маладзёжнае аб'яднанне "Next Stop-New Life" ("Наступны прыпынак — новае жыццё") выступіла ініцыятарам правядзення гэтым летам міжнароднага маладзёжнага фестывалю "Новыя твары". Ён пачнецца 20—27 жніўня ў Віцебску, Расонах, Гомелі і Гомельскай вобласці, Светлагорску, Гродна, Міры, Нясвіжы, Магілёве, Маладзечна, Брэсце. Заключны тыдзень пройдзе ў Мінску.*

Не забываць лепшыя фестывальныя традыцыі — пэўна, так можна расцаніць намаганні арганізатараў маладзёжнай сустрэчы. Сваю мэту яны бачаць у тым, каб наладзіць кантакты і дыскусіі і ў выніку актывізаваць маладзёжныя зносіны паміж краінамі-ўдзельніцамі фестывалю. У яго праграме — пленэр мастакоў, экалагічны семінар, тэатральны караван, работа прэс-, джаз-, рок-, бард-, дыскусійных клубаў. Удзельнікі фестывалю змогуць сустрэцца таксама на "перакрыжаваннях" адукацыі і кінематографа, фотаздымка і прыкладнога мастацтва, сацыяльных праблем і альтэрнатыўнай медыцыны, працоўнай актыўнасці і палітыкі. Сёння заяўкі на ўдзел у фестывалі даслалі Францыя, Германія, Злучаныя Штаты, Швейцарыя, Данія, Іспанія, Галандыя, Грузія, Арменія, Украіна, Прыбалтыка, Расія. Трэба адзначыць таксама, што фестываль будзе праводзіцца на сродкі фундатараў. У іх ліку выступае і фонд Сораса—Беларусь.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### "ЦІХА НА НЕБЕ, ЗЯМЛІ І НА СЭРЦЫ"

*На мінулым тыдні ў памяшканні клуба "Каляндар" адбылася прэм'ера монаспектакля Галіны Дзягілевай "Ціха на небе, зямлі і на сэрцы" паводле драматычнай паэмы А.Пушкіна "Русалка". Пераклад на беларускую мову зрабіў Рыгор Барадулін. У спектаклі былі выкарыстаны вершы Максіма Багдановіча.*

Галіна Дзягілева, актрыса Белдзяржфілармоніі, стварыла свой беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра. Тэатр завецца "Зьніч" і дае ўяўленне пра магчымасці і вартасці беларускага слова.

У сваім апошнім спектаклі актрыса распавядае, прачытвае і аднаўляе зафіксаваныя падзеі і глыбока асабістыя перажыванні. Менавіта распавядальныя інтанацыі ператвараюць дадзенасць сюжэта ў натуральную плынь пачуццяў перажываемых персанажаў. Тут, у Дзягілевай, як і ў іншых яе сцэнічных працах, праявіўся дар боскі — адною сваёю прысутнасцю арганізоўваць сцэнічную прастору і зрушваць дзеянне.

Гаворачы пра "Ціха на небе, зямлі і на сэрцы", нельга пакінуць незаўважаным касцюм актрысы, які зрабіла Наталля Багдановіч. Мастацтвазнаўцы назвалі яго унікальным.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### СЮРПРЫЗ У КАНЦЫ СЕЗОНА

*Вярнуўшыся з далёкага падарожжа, оперная трупа нашага Вялікага тэатра вырашыла паднесці сваім суайчыннікам у канцы сезона сюрпрыз. 10 і 12 ліпеня адбыліся першыя прэм'ерныя паказы оперы Джузепе Вердзі "Рыгалета".*

Сцэнічную версію і пастаноўку вядомага твора італьянскага кампазітара на беларускай сцэне ажыццявіў рэжысёр з Санкт-Пецярбурга Юрый Аляксандраў. Усю музычную частку ўзяў на сябе маэстра Аляксандр Анісімаў. Пастаноўшчык наўмысна адмовіўся ад пышных дэкарацый, каб паказаць, наколькі сучасна гучыць сёння опера, напісаная ў мінулым стагоддзі.

А завершыць свой цяперашні сезон нацыянальная опера 16 ліпеня яшчэ адной нядаўняй прэм'ерай — спектаклем "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета" на музыку Дзмітрыя Шастаковіча. Балетная ж трупа развітаецца з гледачамі на дзень пазней, яна пакажа "Шчаўкунчыка".

### ВУЯЧЫЧ ЗБІРАЕ СЯБРОЎ

*Мужчыны звычайна не ўтойваюць свайго ўзросту. Народнаму артысту Беларусі Віктару Вуячычу гэтымі днямі спаўняецца шэсцьдзесят. Пра гэта паведамілі паклоннікам яго таленту афішы.*

Свой юбілей спявак адзначыў у канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі 11 ліпеня.

**БЕЛІНФАРМ.**

### ДА ДНЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

*Да ўрачыстасцей, прысвечаных 50-годдзю вызвалення горада ад фашысцкіх захопнікаў, рыхтуюцца ў Гродна.*

У гэтыя дні 15-га і 16-га ліпеня абласны цэнтр будзе прымаць шматлікіх гасцей — ветэранаў, удзельнікаў вызвалення. Яны пабываюць на знакамітай заставе імя Віктара Усава, сустрэнуцца з кіраўніцтвам горада і вобласці. Адбудзецца шэсце ветэранаў па цэнтральнай вуліцы горада — Савецкай, да брацкай магілы, мітынг-рэквіем ля абеліска воінам-вызваліцелям, канцэрт-віншаванне духавых аркестраў і шмат іншых урачыстасцей.

Госці будуць запрошаны на канцэрт-успамін у абласны драмтэатр і канцэрт ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь у вайсковы гарадок Фолюш.

Ужо зараз у кінатэатрах Гродна дэманструюцца фільмы аб Вялікай Айчыннай. А ў зале выставы Саюза мастакоў — творы ветэранаў. Завершацца ўрачыстасці святочным феерверкам.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

## ПРЫВАТНАЯ СЯДЗІБА

•АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ• ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ •КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ•

*"Купілі ў вёсцы дом. У ім патрэскаўся, а месцамі і абваліўся тынк. Калі ласка, парайце, як яго адрамантаваць.*

**Сям'я ГРЫЎЦОВЫХ, г.Орша".**

Перш чым вырашыць пытанне аб тым, як рамантаваць тынкоўку, неабходна старанна агледзець наяўныя дэфекты і вызначыць спосаб іх рамонту. Усю тынкоўку знімаць не трэба.

Тую, якая дрэнна трымаецца, ачышчаюць сякерай ці адбіваюць малатком, а ў кутках і іншых цяжкадаступных месцах карыстаюцца зубілам. Каб новы раствор добра трымаўся, робяць швы на глыбіню 1-2 см. Кладку абмятаюць венікам.

Некаторыя цяжкасці складае падбор адцення сумесі, які адпавядае колеру тынкоўкі на непашкоджанай частцы. З-за гэтага фасад будынка ці сцяну прыходзіцца цалкам перафарбоўваць. Між тым, раствор патрэбнага колеру падабраць не так ужо і складана. Чысты пясок прапускаецца праз сіта з дыяметрам адтулін да 6 мм. Дзве часткі сухога пяску змешваюцца з адной часткай гідратнай вапны, паўтара часткамі цэменту. У прыгатаваную сумесь дабаўляецца да 10 працэнтаў фарбы адпаведнага колеру.

Раствор трэба падрыхтаваць на ўвесь рамонт. Перад нанясеннем яго разбаўляюць вадой, накідваюць кельмай на шурпатую паверхню грунту і загладжваюць драўляным палуцеркам. Паверхня павінна выступаць на 2-3 мм ад старой тынкоўкі. Толькі пасля высыхання слою паверхня выраўноўваецца стальным скрабком да патрэбнага ўзроўню.

Дробны рамонт тынкоўкі — найбольш частая аперацыя, з якой прыходзіцца сутыкацца кожнаму з нас. Пастукваннем вызначаецца плошча пашкоджання, адстаўшыя кавалкі затым выдаляюцца да кладкі з "прыпускам" двух-трох сантыметраў непашкоджанага слою. Замазваюцца "дзіркі" вапнавым растворам з дабаўленнем гіпсавага цеста (1 кг гіпсу на 1,5 л вады). На 6 частак вапнавага раствору бярэцца 1 частка гіпсавага цеста. Адкрытую кладку апырскваюць вадой і ўвільгатняюць тынкоўку вакол яе, з якой была знята і клеевая фарба. Толькі пасля гэтага напырскваннем наносяць вадкі раствор. Аддзелачны слой накідваецца пасля падсыхання грунту і загладжваецца лямцавым палуцеркам. Каб не было трэшчын, паміж старой і новай тынкоўкай, швы "праціраюцца" мокрай анучкай або пэндзлем.

### ПАРАДЫ КВЕТКАВОДАМ

* Пры выбары месца пад пасадку гладыёлусаў трэба памятаць, што яны любяць святло. Участак павінен добра асвятляцца сонцам. Лепшыя глебы для гладыёлусаў – лёгкія суглінкі, багатыя перагноем са слабакіслай рэакцыяй.

* Перад пасадкай клубнецыбуліны трэба ачысціць ад лускі (гэта дае магчымасць выбракаваць хворыя расліны). У прафілактычных мэтах супраць грыбковых і бактэрыяльных хвароб іх дэзінфіцыруюць у 0,3-працэнтным растворы марганцавакіслага калію на працягу 1-2 гадзін.

* Не забудзьце перад пасадкай клубнецыбуліны апрацаваць мікраэлементамі. Гэта не толькі палепшыць сілкаванне маладых раслін, але і паскорыць цвіценне на 10-12 дзён, а таксама павысіць супраціўляльнасць раслін да хвароб.

* Раствор мікраэлементаў (на 10 л вады) наступны: борная кіслата – 3 г, марганцавакіслы калій – 2, сернакіслая медзь – 3, азотнакіслы кобальт – 1, малібдэнавакіслы амоній – 1, сернакіслы магній – 2,5, сернакіслы цынк – 0,5 г. Клубнецыбуліны вытрымліваюць у растворы 12-14 гадзін.

* Высаджваюць гладыёлусы ў добра апрацаваную і прагрэтую глебу (не менш як 10 градусаў цяпла на глыбіні 10 см). Клубнецыбуліны пашкоджваюцца замаразкамі пры тэмпературы мінус 5–6 градусаў, прарастаючыя і маладыя расліны – пры 4 градусах.

* Буйныя клубнецыбуліны садзяць на глыбіню 8-10 см ад донца, дробныя – 5–6 см. Адлегласць паміж раслінамі – 15 см, на 1 пагонны метр размяшчаюць 6–8 штук. Дзетак сеюць у баразны на глыбіню 3–5 см. Пасаджаныя гладыёлусы абавязкова трэба замульчыраваць слоем тарфяной крошкі 3–5 см, ліставой зямлёй, саламянай сечкай ці іншым падобным матэрыялам. Гэта садзейнічае захаванню аптымальнай вільгаці глебы, яе рыхласці, падтрыманню тэмпературы на адным узроўні, стварэнню спрыяльных умоў для развіцця карнявой сістэмы.

## КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

# Барометр пакуль паказвае на буру

□ **Наталля ГАРЫНА**

***Розныя злачынствы сёння, здаецца, захліснулі ўсё. Міліцэйская статыстыка бясстрасна рэгіструе хвалю насілля, якая ўсё ўздымаецца. У рэспубліцы рэгіструецца штосутачна ў сярэднім звыш трохсот злачынстваў, з іх — больш за паўсотню цяжкіх. Гэта — 2 забойствы, 5 цяжкіх цялесных пашкоджанняў (усе яны, як правіла, са смяротным зыходам), 14 грабяжоў, 3 разбойныя нападзенні. Як паведамілі спецыялісты-аналітыкі ў Міністэрстве ўнутраных спраў, узровень злачыннасці ў разліку на 10 тысяч насельніцтва склаў 45 злачынстваў, у параўнанні з мінулым годам ён вырас больш чым на 15 працэнтаў, прычым звыш 12 працэнтаў складае рост злачынстваў па лініі крымінальнага вышуку.***

— Заўважу, — падкрэслівае першы намеснік начальніка штаба МУС рэспублікі А.Пахомаў, — што большая частка злачынстваў учыняецца ў гарадах і пасёлках гарадскога тыпу. Узрасла крыху ў параўнанні з мінулым годам і ўдзельная вага такіх злачынстваў у агульнай структуры злачыннасці (амаль на адзін працэнт). Крыху вышэйшая яна ў Віцебскай вобласці і значна вышэйшая — на Міншчыне. У астатніх рэгіёнах ідзе больш актыўны працэс крыміналізацыі сяла.

З усёй відавочнасцю можна сцвярджаць, што рост злачыннасці праламляецца скрозь прызму сацыяльна-эканамічнай абстаноўкі. Прычым, у крымінальнай палітры з'явіліся штрыхі, раней зусім не характэрныя для рэспублікі. Скажам, сапраўдным бічом для сельскай міліцыі з'яўляюцца крадзяжы птушкі, жывёлы з хатніх падворкаў, а таксама з калгасных і саўгасных ферм. А яшчэ ж некалькі гадоў назад замахі на гэтую ўласнасць былі проста рэдкасцю.

— Пачасціліся крадзяжы ядахімікатаў, — працягвае А.Пахомаў. — Раней мэтай крадзяжоў, як правіла, была тара — каністры, што выкарыстоўваліся потым для захоўвання бензіну. Змесціва ж проста вылівалася, высыпалася, што акрамя прамога матэрыяльнага ўрону для гаспадарак, у якіх краліся ядахімікаты, істотную шкоду наносіла і навакольнаму асяроддзю.

Ядахімікаты — зусім новы аб'ект крымінальнага інтарэсу. Выкліканы ён, у першую чаргу, дастатковым дэфіцытам і даволі значным коштам гэтай прадукцыі. Попыт на апошнюю вялікі ўнутры рэспублікі і за яе межамі. Асабліва добра ідзе гэты тавар на рынках суседняй Польшчы. За 15—20-літровую каністру чаўночны ядаваяжор атрымлівае тут ад 100 да 200 даляраў. У нас жа, як растлумачылі затрыманыя на граніцы такія "прадпрымальнікі", тавар гэты ў іншага сельскага зладзея-п'яніцы можна купіць за бутэльку.

Безгаспадарчасць і безадказнасць у адносінах да дарагой прадукцыі, аддаленасць ад населеных пунктаў і вельмі слабая ўмацаванасць складоў, дзе захоўваюцца ядахімікаты, даюць магчымасць практычна без перашкод зламыснікам пранікаць у складскія памяшканні і амаль "цэнтралізавана" вывозіць ёмістасці з вадкасцю на шматмільённыя сумы.

У Ваўкавыску, напрыклад, мясцовыя аператыўнікі выкрылі арганізаваную злачынную групу з 15 чалавек (у асноўным нідзе не працуючых гараджан). Гэты штрых таксама даволі характэрны для крымінагеннага кантынгенту. На працягу двух гадоў яны ўчынілі 25 крадзяжоў ядахімікатаў са складоў Гродзенскай і Брэсцкай абласцей. Урон ад гэтага складае 500 млн.рублёў. У ходзе следства па гэтай справе былі ўстаноўлены факты змовы злачынцаў з работнікамі мытнай службы і ваеннаслужачымі пагранвойск, што дапамагалі ім вывозіць тавар за "кардон" і атрымаць за яго "ядавітую" валюту.

Калі "камерцыя" на ядах супраць насякомых, шкоднікаў і пустазелля чалавечымі ахвярамі не абарочваецца, дык прадпрымальнасць іншага роду, пабудаваная на адкрыта залішняй прыхільнасці даволі значнай часткі насельніцтва рэспублікі Бахусу, нярэдка заканчваецца сапраўднымі трагедыямі. Вось і нядаўна ў Першамайскі РАУС г.Мінска ад брыгады хуткай медыцынскай дапамогі паступіла паведамленне, што ў кватэры аднаго з дамоў па вул.Русіянава знойдзены труп гаспадара-пенсіянера, і з гэтай жа кватэры ў бальніцу з прыкметамі атручвання алкагольным сурагатам дастаўлены яшчэ адзін непрацуючы мінчанін і рабочы Мінскага завода безалкагольных напіткаў. Барацьба медыкаў за жыццё атручаных не ўвянчалася поспехам.

— Сёння многае не здзіўляе, — сказаў з гэтай нагоды галоўны эксперт навукова-крыміналістычнага цэнтра МУС, супрацоўнікі лабараторыі харчовых даследаванняў падпалкоўнік міліцыі А.Яцэнка. — Калі размова ідзе аб магчымай нажыве, многія кідаюцца на шлях "самапальнага" вінакурства.

Аналізуючы міліцэйскую практыку па гэтаму пытанню, я яшчэ раз пераканалася, што на здароўі нашых не надта пераборлівых суграмадзян не супраць "састрыгчы капусту" некаторыя "вінаробы". У МУС мне сказалі даволі мякка: "пачасціліся факты вырабу і рэалізацыі праз гандлёвую сетку і камерцыйныя фірмы фальсіфікаваных моцных напіткаў, якія, па сутнасці, з'яўляюцца сурагатамі". У гэтым годзе ў Пухавічах была выяўлена група выхадцаў з Арменіі, якія даволі хутка прыстасаваліся вырабляць саматужным спосабам нейкі "эліксір душэўнай бадзёрасці" і рэалізоўваць яго ў шклатары, афармленай зусім фірменнай этыкеткай "Каньяк святочны". Такі напітак сапраўды існуе, але тое, што было канфіскавана і даследавана (больш за 2 тысячы бутэлек) уяўляла, паводле заключэння экспертаў, ні што іншае, як разбаўлены этылавы спірт, "размякчаны" харчовым фарбавальнікам. Моцнасць гэтага пойла па адпаведнай шкале вагалася ад 31 да 33 градусаў. Падобны лжэканьяк выяўляўся пры спробе яго рэалізацыі праз МП "Люсо" ў Лагойску па цане 7 тысяч рублёў (ну проста вельмі смешныя цэны!!!), праз магазіны і кафэ г.Мінска.

Негатыўныя вынікі нарошчвання вырабу і рэалізацыі спіртных напіткаў агульнавядомы. Амаль кожнае трэцяе злачынства ажыццяўляецца асобамі, што знаходзяцца ў нецвярозым стане. Пад уздзеяннем спіртнога ўчынена 60 працэнтаў разбойных нападзенняў, звыш 70 — цяжкіх цялесных пашкоджанняў, 75 — наўмысных забойстваў.

Асаблівы неспакой органаў унутраных спраў выклікае працэс "амалоджвання" злачыннасці. Падлеткі становяцца самай крымінагенна паражонай часткай насельніцтва. На стан крымінагеннай абстаноўкі вельмі дэстабілізуючы ўплыў аказвае абвастрэнне крызісных сацыяльна-эканамічных праблем. Рэзкае маёмаснае расслаенне, скарачэнне рабочых месцаў, "скрытае" і афіцыйнае беспрацоўе — усё вядзе да павелічэння колькасці асоб, ахопленых злачыннасцю. Кожны трэці злачынец нідзе не працуе і не вучыцца. У параўнанні з мінулым годам працэнт росту складае 34. А ў Гродзенскай, Магілёўскай абласцях адпаведна больш чым 45 і 60. Узрастае караслівы напрамак і цяжар ажыццяўляемых гэтымі асобамі злачынстваў. Нядаўна ў МУС Віцебскага аблвыканкама паступіла паведамленне з Санкт-Пецярбурга аб затрыманні аўтамашыны ВАЗ-2105, якой кіраваў раней судзімы дваццаціпяцігадовы бабруйчанін. Побач з ім знаходзілася таксама нідзе не працуючая дваццаціГадовая яго зямлячка. Было ўстаноўлена, што машына належыць жыхару Віцебска, які займаўся прыватным возніцтвам і з канца чэрвеня значыўся сярод без звестак прапаўшых. Выяўлена, што гэтыя двое разам з яшчэ двума непрацуючымі віцябчанамі селі ў гэтую машыну на прывакзальнай плошчы ў Віцебску. Паблізу ад вёскі Каменка Гарадоцкага раёна выцягнулі вадзіцеля і забілі нажом. Аператыўная група, што выехала на месца, знайшла труп загінуўшага з дзесяццю нажавымі ранамі.

У цяперашняй няпростай сацыяльна-эканамічнай абстаноўцы самы час упасці ў паніку, што часткова і назіраецца ў грамадстве. Крымінагенная абстаноўка з-за асаблівасцей нашай геапалітычнай прасторы сапраўды складаная. Рост злачыннасці назіраецца толькі ў Беларусі і на Украіне. У Расіі ж узровень яе знізіўся, у Прыбалтыцы — нават значна. Праўда, раскрыццё злачынстваў, а гэта ва ўсім свеце самы прызнаны крытэрый ацэнкі дзейнасці органаў унутраных спраў, у Беларусі самы высокі. А гэта дае магчымасць спадзявацца, што стрэлка на барометры злачыннасці неўзабаве пэўна паверне да сектара "ясна".

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Немачы бюджэту, прыхаваны крыжасловў,

## або Новыя тэмы і вяртанне да надрукаванага па пісьмах нашых чытачоў

Спасылкі на "немачы" бюджэту сталі ўжо традыцыйнымі. Лягчэй, напэўна, спаслацца на тое, што бракуе грошай, чымся пералічыць спосабы, якімі спрабавалі выкараскацца з гаротнага матэрыяльнага становішча. Хаця апошняе таксама не заўсёды выратоўвае, але тым не менш з'яўляецца хаця б важкім аргументам у абгрунтаванні ўласнай пазіцыі.

Ліст пад загалоўкам "Забытыя вёскі", змешчаны ў "Паштовай скрынцы" "Чырвонай змены", мы накіравалі ў выканкам Ваўкавыскага раённага Савета народных дэпутатаў. І адтуль прыйшоў (не змусіў сябе доўга чакаць!) адказ. З апошняга вынікае: наш чытач справядліва ўзняў у сваім допісе праблему руху прыгарадных аўтобусаў. Існуе яна не толькі для Ваўкавыскага раёна. У прыватнасці ж, у апошнім з 42 прыгарадных аўтобусных маршрутаў, якія існавалі тры гады таму, засталося — 17. Розніца кідаецца ў вочы, ці не так. "Скарачэнне аўтобусных маршрутаў, — тлумачыць старшыня раённага Савета народных дэпутатаў У.Д.Дуброўскі,— выклікана недахопам грашовых сродкаў, якія выдзяляюцца з бюджэту для пагашэння страт аўтобуснага парка. Толькі за студзень — сакавік 1994 года страты на 17 аўтобусных маршрутах склалі ў суме 150,3 млн.рублёў, што выплачаны з раённага бюджэту". Надалей заўважана: "Пасажыраў вёскі Грыбаўцы абслугоўвае аўтобусны маршрут "Ваўкавыск — Бурнева". Толькі вось у чым закавыка, свой прыпынак аўтобус "Ваўкавыск — Бурнева" робіць за кіламетр ад вёскі Грыбаўцы — у вёсцы Рашэва.

"Адсутнасць грашовых сродкаў у раённым бюджэце, — канстатуе "рэагаванне", — не дазваляе забяспечыць заезд аўтобуса ў вёску Грыбаўцы". І ўсё ў адказе роўна ды гладка, хіба што ў подпісе "Старшыня раённага Савета дэпутатаў" згублена азначэнне "народных". Напэўна, машыністка памылілася, а спадар Дуброўскі не заўважыў. Дый гэты пропуск і памылкай нельга назваць. А вось вырастае з яго сімвал няўвагі да патрэб людзей. Чые ж яны, гэтыя дэпутаты, — "народныя" ці не? Чыімі грашыма пад суровым назовам "бюджэт" распараджаюцца. Не знайшло водгуку ў адказе старшыні раённага Савета і тое, што пад лістом Міхаіла Семяновіча, які "не пражывае ў Ваўкавыскім раёне", подпісы яшчэ пятнаццаці чалавек — жыхароў вёскі Грыбаўцы. Адчуваецца непрыязнасць кіраўніцтва да нетутэйшага, які немаведама па якому праву збірае подпісы пад зваротам у рэдакцыю.

Так што забытыя вёскі застаюцца забытымі, і клыпаюць да аўтобусных прыпынкаў (дзеля эканоміі бюджэту) інваліды, ветэраны, бабулькі з дзядулямі (а іх у нашых вёсках вой як болей, чымся моладзі). Вёска зноўку застаецца наводшыбе, і калі трэба нешта "скараціць, урэзаць, паменшыць, зэканоміць", то за ейны, матулі-вёскі, нашай карміцелькі, кошт гэта і робіцца. Ці не адсюль гэта спрадвечная сялянская крыўда на жыццё, абкрадзенае ўвішнай бюракратычнай машынай.

Прыемна, калі лісты прыходзяць ад даўніх сяброў газеты. Адной з іх кагорты з'яўляецца Рэгіна Норбертаўна Ластоўская, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце СШ № 2 горада Паставы. Яна — падпісчык "Чырвонай змены" з 1962 года. У Рэгіны Норбертаўны ёсць пляменнік Андрэй, якому ў траўні споўнілася 17 год. Аднак бяда ў тым, што хлопец — інвалід з дзяцінства. Ён хворы на цэрэбральны параліч. Юнак зусім не можа хадзіць — перамяшчаецца на калясцы, піша левай рукой. Нягледзячы на цяжкасці лёсу, Андрэй паспяхова скончыў 9 класаў Савіцкай школы. А вось з дзесятым класам — праблема, бо трэба ехаць дзеля навучання ў горад. Такой магчымасці ў сям'і няма.

Рэгіна Норбертаўна распавяла пра захапленні свайго пляменніка. Тут і выпальванне па дрэве, адгадванне і складанне крыжасловаў. Хлопец нават злаўчыўся пілаваць дровы пілкай-аднаручкай. Галоўнае ж, што змусіла спадарыню Ластоўскую ўзяцца за пяро, — сарамлівасць юнага складальніка крыжасловаў. Ён сам аніяк не наважыцца даслаць хаця б адзін здабытак сваёй знаходлівасці ў рэдакцыю. Таму Рэгіна Норбертаўна цішком узяла адзін са складзеных Андрэем крыжасловаў і даслала яго ў "Чырвоную змену". "Для Андрэйкі, — вытлумачыла яна ў сваім лісце, — гэта (выхад у свет крыжаслова) было б найвялікшай радасцю. А колькі гэтых радасцей у інваліда з дзяцінства?" Дасланы крыжаслоў стаўся сапраўды цікавым і неўзабаве быў надрукаваны ў нашай газеце.

Прычытай, Андрэйка, гэтыя радкі і зразумей, што сяброў у цябе стала намнога больш. Увесь калектыў рэдакцыі зычыць табе поспехаў. А вось з 10-м класам трэба нешта вырашаць. Табе абавязкова неабходна вучыцца. Абавязкова! Мо можна зрабіць гэта завочна, а пасля экстэрнам здаць выпускныя экзамены. Чакаем, хлопча, тваіх лістоў!

Любоў Фёдараўна Л. звярнулася ў рэдакцыю па адказ на хвалюючае яе пытанне. Спадарыня Л. — маці траіх дзяцей. Разведзеная. Шлюб скасаваны ў 1982 годзе. Тры гады Любоў Фёдараўна атрымлівала дзяржаўную дапамогу на дзяцей. У гэтым жа годзе ёй адмоўлена ў выплаце азначанай падтрымкі. Чаму? Таму што жанчына не прадставіла даведкі з месца працы мужа (аб ягонай заработнай плаце) ці даведкі аб аліментах, якія атрымлівае. Аднак мужа яна "адпусціла" вольным на ўсе чатыры бакі" — не падавала заяву на вылічэнне з ягоных даходаў аліментаў. Такім чынам, ці справядлівыя прэтэнзіі да маці, якая адна выхоўвае траіх дзяцей і ўтрымлівае сваю сям'ю толькі на ўласны заробак. Дарэчы, апошні не ўражвае, мякка кажучы, сваімі памерамі: Любоў Фёдараўна — калгасны палявод. За каментарам да ліста спадарыні Л. мы звярнуліся ў Дзяржаўны камітэт па працы і заработнай плаце. І вось пра што даведаліся. Даведку, паважаная аўтарка допісу, ад Вас запатрабоўваюць упаўне абгрунтавана. Робіцца гэта на падставе 39-га пункта Палажэння аб парадку злічэння сумеснага даходу на члена сям'і пры назначэнні дапамогі на дзяцей. Хаця шлюб скасаваны і Любоў Фёдараўна не атрымлівае аліментаў, але бацьку ад ягоных бацькоўскіх абавязкаў ніхто не вызваляў. Больш таго, тое, што Вам тры гады выплачвалі дапамогу без неабходнай даведкі, з'яўляецца парушэннем існуючага заканадаўства. Папросту плацельшчыкі, відаць, спахапіліся і запатрабавалі ад Вас, Любоў Фёдараўна, "непадшыты" дакумент. Што тычыцца даплаты на набыццё школьнай формы дзецям, дык яна сёлета павінна быць выплачана Вам: 75 тысяч на кожнае дзіця, калі на 17-е ліпеня аднаму з іх не споўніцца 18-ці гадоў.

Нарэшце, водпаведзь незадаволенага чытача. Што ж, будзем зыходзіць з таго, што чытач, як і пакупнік, заўжды мае рацыю. Але не адмаўляем сабе ў праве мець уласную пазіцыю. Вось ён — "зубасты" ліст Міхаіла Расевіча з сяла Стахавічы Пінскага раёна. Упікае шаноўны Расевіч газету ў памылках. Да карэктных парад і заўваг мы прыслухоўваемся. Але вось што насцярожвае — у чужым воку парушынка спакою не дае, а ва ўласным — нават бервяно свет не засціць. Вучыць нас спадар Расевіч беларускай мове. Павучыцца мы радыя. За навуку зараз грошы вялізныя бяруць, а тут бясплатнае выкладанне. Калі ж гаворка ідзе па шчырасці, дык пакаштуйце таго ж хлеба, якім пачаставалі нас. Дазвольце, паважаны, і ў вашых даволі злосных ментарскіх радках мякка адзначыць недакладнасці. Не "рысункі", а "малюнкі", не "рэч пра...", а "гаворка пра...", не "палавіна", а "палова"... Скажам вашымі ж словамі: "Сорамна не ведаць нават простых слоў". Аднак, Міхаіл, Вы пярэчыце самі сабе. З аднаго боку гэткі клопат пра чысціню беларускай мовы, з другога — фанабэрыстае: "І мне, і маім землякам усё роўна ў прынцыпе, як вы там гаворыце". А вось нам не "ўсё роўна ў прынцыпе, як вы там гаворыце", больш таго, не "ўсё роўна", як вы "там" жывяце.

На гэтым скончым чарговую "Зваротную сувязь". Хіба што дадамо словы Івана Герасімовіча. Найбольш прыцягвае маладога чытача беларускамоўнасць газеты, "таму што ў нас на Беларусі поўнасцю беларускамоўныя выданні можна пералічыць на пальцах".

**Алена АГІБАЛАВА, тэл.68-28-32.**

## АМАЛЬ ЮБІЛЕЙ

# "Світанак ціха настае..."

*Трыццаць гадоў назад у "Чырвонай змене" Віктар ГАРДЗЕЙ, тады яшчэ школьнік, надрукаваў свой першы верш "Вясновыя ручнікі". У жыцці кожнага літаратара, безумоўна, гэта даволі важкі і прыемны юбілей. Іменна з таго дня, калі ў друку ўпершыню з'явілася прозвішча маладога паэта, для яго пачаліся сапраўдныя творчыя пакуты слова.*

*У пазнейшыя часы Віктар ГАРДЗЕЙ падтрымліваў самыя цесныя сувязі з любімай маладзёжнай газетай: пісаў для яе нарысы, карэспандэнцыі, замалёўкі, рэцэнзіі. Асабліва плённым было гэтае супрацоўніцтва ў 60-я і 70-я гады, на працягу якіх "Чырвоная змена" надрукавала больш за шэсцьдзесят вершаў паэта. Па сутнасці, цэлая кніга, ды і немалая. Цікава зазначыць, што добрыя тры дзесяткі твораў, напісаных яшчэ ў юнацтве і тады ж апублікаваных "Чырвонкай", Віктар ГАРДЗЕЙ уключыў у свой паэтычны зборнік "Дзікая пчала".*

*Біяграфія пісьменніка самая звычайная. Нарадзіўся ён у 1946 годзе ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна. Скончыў Круговіцкую сярэднюю школу і журфак Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у рэдакцыях раённых газет, у часопісах "Беларусь", "Родная прырода", цяпер — рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Маладосць". За гады творчай працы Віктар Гардзей выдаў 14 кніг прозы, паэзіі, вершаў для дзяцей. Яго празаічная кніга "Уратуй ад нячыстага" летась адзначана Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа.*

*У гэтай падборцы чытайце новыя вершы Віктара ГАРДЗЕЯ — даўняга сябра "Чырвонкі".*

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.**

## Віктар ГАРДЗЕЙ

Світанак ціха настае —
Вось промні пырснуць хутка.
І думы-вобразы мае
Знікаюць па закутках.

Птушыны грай паміж бяроз
Мацнее паступова.
Знікаюць дзесьці рэшткі слёз,
Што перальюцца ў слова.

Знікае жур, знікае страх —
Спакой адчуе цела.
Яшчэ шарэе ў трох вуглах,
А покуць — пасвятлела.

У двор паўзе туман густы.
Зары гарыць палоска.
І праступае з цемнаты
Ікона Маці Боскай.

* * *

І няма мне спакою,
І хвалюе мяне
Дзень, пражыты не мною,
Ці ў зіме, ці ў вясне.

Дзень за днём — і завея
Вытча белую ніць,
І слязінка на веях
Ад жальбы затрымціць.

Дык навошта шукаю
Я ад шчасця ключы?
З апраметнай і раю
На зямлю не ўцячы.

Ён са мною навекі —
Дзень, пражыты не мной.
Толькі ж дзе тыя лекі?
Толькі ж дзе той спакой?

* * *

Прачнуся пусты раніцой,
Ды толькі прыбавіць пакут рань.
Царква Магдалены Святой
Заве прыхаджанаў на ютрань.

Маркота, гаркота, жальба,
І дома не выседзець седню.
Нячутна анёлаў труба
Склікае людзей на абедню.

Рассыпана зор, як дажджу,
На небе, аздобленым чэрню.
Не знаю, чаму не хаджу
З бядою сваёй на вячэрню.

Напэўна, замнога віны,
І богу таму не патрэбен.
Але не змаўкаюць званы —
Завуць і завуць на малебен.

* * *

Рыцарамі клёны
Між бяроз-прынцэс.
Толькі ж быў зялёны —
Стаў аспідным лес.

І такая ціша,
І такі спакой.
Ветрык не калыша
Нат іглiцу хвой.

Але сэрца ные
І адчай гняце.
Ледзь чутны начныя
Гукі ў пустаце.

Лось імшары месіць.
Скрэндзіць ваўкалак.
На дарогу, месяц,
Пасвяці, аднак.

Воблакі апалі
На счарнелы лес.
Рыцары прапалі
І — няма прынцэс.

* * *

Маладосць па боскай волі
Плача каняй у трысці.
Нам туды цяпер ніколі
Не даехаць, не дайсці.

На маім ляжыць сумленні,
што бываеш у журбе.
Чую, бачу ў аддаленні
Маладзенькую цябе.

Кіламетрам, пэўна, сотым
Я на голас твой бягу,
Ты ж праз гаці і балоты
Уцякаеш за смугу.

Выбачай за гэту мрою:
Дурань быў і дурань ёсць.
Але ж там, за сінявою,
Плача наша маладосць.

## ЧЗ

### Бежанцы вяртаюцца ў Кігалі

*Ваеннае камандаванне Францыі лічыць, што можна адмяніць французскую аперацыю ў Руандзе.*

Прадстаўнікі патрыятычнага фронту Руанды заявілі аб гатоўнасці да спынення агню. 50 тысяч бежанцаў вяртаюцца ў сталіцу Кігалі. Гэта знак таго, што баявыя дзеянні ў Руандзе завяршаюцца.

### Пінгвіны–пацыенты

*Воды ля берагоў Паўднёвай Афрыкі амаль цалкам атручаны нафтай. Гэта пагражае рэдкім відам пінгвінаў.*

Супрацоўнікі міжнароднага таварыства выратавання птушак і жывёлін злавілі атручаных нафтай пінгвінаў і адправілі ў вялізныя рэзервуары, дзе тыя прайшлі спецыяльны курс лячэння. Потым іх зноў выпусцілі на волю, але ўжо ў больш чыстыя раёны.

### Сацыялісты пратэстуюць

*Галоўны федэральны суд Германіі вырашае, ці трэба адпраўляць салдат "Бундэсвера" ў "гарачыя" кропкі для ўладкавання канфліктаў.*

Сенат пацвердзіў такое рашэнне. Але сацыялістычная партыя Германіі выступае супраць умяшання нямецкіх салдат у канфлікты на замежных тэрыторыях. У прыватнасці, сацыялісты пратэстуюць супраць удзелу ў Баснійскім крызісе і высадкі войскаў у Самалі.

### Праблемы Адэна

*Урад Йемена прадпрымае рашучыя крокі, каб усталяваць парадак і стабільнасць у Адэне.*

Групоўкамі Паўночнага фронту былі разгромлены важныя камунікацыі і пабудовы. Насельніцтва дагэтуль пакутуе ад недахопу пітной вады. Прадстаўнікі ўрада заявілі, што кожны грабёж, кожнае злачынства будуць сурова пакараны.

### Кітайскі 50–метровы шэдэўр

*Магчыма, кніга рэкордаў Гінеса папоўніцца новым запісам. Кітайскія кулінары прыгатавалі страву даўжынёй 50 метраў і вагой 40 кілаграмаў.*

Гэты "цуд" нагадвае скручаны рулон. Каб яго прыгатаваць, патрабуецца 18 прыпраў ад 200 грамаў да 20 кілаграмаў, у асноўным, агародніны. Таксама патрэбны... 95 кулінараў. Адбылася і першая дэгустацыя. Госці, якія частаваліся "творам кулінарнага мастацтва", былі зачараваны. Цяпер у Кітаі шукаюць назву для гіганцкага шэдэўра.

### Прыведзены да прысягі

*У Заіры прыведзены да прысягі новы прэм'ер-міністр.*

Гэта адбылося, нягледзячы на байкот новага кіраўніка ўрада з боку часткі парламентарыяў, якія падтрымлівалі былога прэм'ера Чысякедзі.

### Блакітная вада – белая смерць

*Адзін з двух чалавек, на якіх напала белая акула ў водах Паўднёва-афрыканскага порта Іст-Лондан, памёр у бальніцы.*

Смерць 22-гадовага хлопца наступіла з-за ныркавай недастатковасці, вялікай страты крыві і шоку. Дактары, адразу ж пасля дастаўкі пацярпеўшага ў клініку, ампутавалі яму правую нагу, якая былаператворана ў месіва. Аднак жыццё маладога чалавека выратаваць не ўдалося.

### Справа Сімпсана

*Працягваецца працэс па справе О.Д.Сімпсана. Аналітыкі лічаць: верагодна, што акруговы пракурор Д.Гарцэці запатрабуе смяротнага пакарання для былой футбольнай зоркі за забойства сваёй жонкі і яе сябра.*

Працэс працягваецца ўжо больш за 20 дзён. 22 ліпеня Сімпсан выступіць у сваю абарону, тады ўсё і вырашыцца.

